# БАЦЬКАЎШЧЫНА




**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

**DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")**
**Herausgeber: Wladimir BORTNIK**
**Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.**
Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
**Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.**

**ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.**

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„

№ 44 (326) — Нядзеля, 28 кастрычніка 1956 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 10


# Наступ на Польшчу пачаўся

Самай вызначнай падзеяй мінулага тыдня была нечаканая візыта крамлёўскіх верхаводаў у Варшаве. У мінулую пятніцу, бяз усякага папярэджаньня, прыляцелі туды самалётам Хрушчоў, Молатаў, Кагановіч і Мікаян. На працягу некалькіх гадзін яны гутарылі з польскімі камуністычнымі кіраўнікамі. Адляцелі яны гэтак-жа неспадзявана, як і зьявіліся.

Пасьля гэтых таямнічых перамоваў варшаўскае камуністычнае кіраўніцтва выдала толькі кароценькі камунікат, у якім гаворыцца, што перамовы вяліся «ў атмасфэры сяброўства й шчырасьці», ды што былі прадыскутаваныя актуальныя праблемы.

Усе заходнія палітычныя назіральнікі згодныя ў ацэне значэньня гэтае раптоўнае візыты. Калектыўная дыктатура Савецкага Саюзу ўжо даўно зь непакоем сочыць за разьвіцьцём падзеяў у Польшчы ў сувязі з гэтак званай дэмакратызацыяй пасьля дэсталінізацыі, пачатае Хрушчовам на 20-ым зьезьдзе КПСС. На думку Масквы, Польшча задаслоўна прыняла ідэю дэмакратызацыі, і пайшла зь ёю так далёка, што сучаснае становішча пагражае камуністычнай сыстэме, як такой. Сакрэтны цыркуляр, у якім ЦК КПСС перасьцерагала камуністычныя партыі сатэлітных краінаў перад залішнім уплывам Югаславіі, ня даў практычна ніякіх вынікаў. Да гэтага, Югаславія дала нядвузначна да зразуменьня, што аб гэтым сакрэтным цыркуляры яна даведалася якраз ад польскіх камуністых.

Асабліва занепакоілі Маскву апошнія падзеі ў Польшчы. Гомулка, выпушчаны з турмы толькі ў мінулым годзе, карыстаецца ў работніцкіх масах нязвычайнай папулярнасьцяй. Ён стары камуніст, але для масаў ён — сымбаль палітычнай і эканамічнай незалежнасьці Польшчы ад маскоўскага цэнтру. Сваіх паглядаў ён не хаваў, і таму якраз быў пасаджаны ў турму, як цітаіст. І вось цяпер ён вярнуўся да палітычнае дзейнасьці. Усе палітычныя назіральнікі былі пераканаsuccessfully ныя, што бяручы пад увагу цяперашняе палажэньне ў Польшчы, ён нямінуча мусіў зноў увайсьці у Палітбюро польскае кампартыі, што й здарылася. Гэта было вялікім ударам для калектыўнага кіраўніцтва, бо Гомулка ставіць такія дамаганьні, якія падрываюць ня толькі прэстыж Савецкага Саюзу, але й выключаюць наагул ягоны кантроль у Польшчы. Пад ягоным уплывам, ужо цяпер стаіць пытаньне абмежаваньня кампэтэнцыяў пастаўленага Масквой галоўнакамандуючага польскімі збройнымі сіламі маршала Ракасоўскага, якога ў новы склад ЦК партыі зусім ня выбралі. Ёсьць чуткі, што яго наагул зьбіраюцца зьняць з гэтае-ж функцыі пад націскам таго-ж Гомулкі. Для Савецкага Саюзу, гэта азначала-б бадай поўную страту кантролю над галоўным дзейнікам ягоных уплываў у такой краіне, як Польшча.

Першы сыгнал для паходу супраць Польшчы падала «Правда». У нязвычайна войстрым тоне, які прыгадваў часы кампаніі супраць Ціты, яна заатакавала першым чынам польскую прэсу, што пачала адкрыта пісаць аб катастрафальным палажэньні ў краіне. Гэта, паводля «Правды», падрывае самую аснову народнае дэмакратыі, ці йнакш кажучы — камуністычнага рэжыму.

Атака «Правды» не зрабіла ніякага ўражаньня. Крамлёўскія правадыры былі прымушаныя паехаць самі ў Варшаву. Зь неспадзяванасьці й кароткасьці іхнае візыты можна заключыць, што перамовы насілі ультыматыўны характар. Гэта пацьвярджаецца фактам, што Хрушчова суправаджалі ведамыя сталінцы: Молатаў і Кагановіч. Ужо даўно хадзілі весткі, што яны абараняюць палітыку зялезнае рукі ў задносінах да сатэлітаў, і выказваліся за неадкладнае спыненьне працэсу дэмакратызацыі.

Як паведамляюць з Польшчы, якраз падчас візыты крамлёўскіх кіраўнікоў адбываліся вялікія мітынгі работнікаў з дамаганьнямі працягваньня дэмакратызацыі. У той-жа час, паводля вестак із швэдзкіх дыпляматычных колаў, Хрушчоў, сустрэўшыся з Гомулкам, адмовіўся падаць яму руку, кінуўшы пры гэтым рэпліку: «Здрайцам я рукі не падаю». Пасьля ў перамовах ён заявіў, што найменшая адзнака супраціву ў Польшчы будзе здушана савецкай арміяй.

Цяпер слова за польскім камуністычным кіраўніцтвам: або аперціся на народныя масы й працягваць працэс, які можа давесьці да запраўднае дэмакратыі. або, баючыся страціць уладу, сьхіліцца да жаданьняў Масквы ды завесьці зноў тэрор у краіне.

У запраўднасьці-ж, слова цяпер за польскім народам. Ягоныя пазыцыі настолькі моцныя, што ён можа стацца авангардам у вызвольным змаганьні супраць бальшавіцкае дыктатуры.

**У. С.**

# «Забытыя імёны»

Пад такім назовам зьявіўся ў «Літаратуры і мастацтве» з 13 кастрычніка артыкул І. Баса, прысьвечаны забытай літаратурнай спадчыне беларускага народу мінулага стагодзьдзя. У ім аўтар парушыў набалелую праблему і паставіў слушныя дамаганьні глянуць у гісторыю самабытнага нацыянальна-культурнага адраджэньня, а таму было-б на месцы затрымацца шырэй над гэтай праблемай і артыкулам.

Як ведама, у вывучэньні літаратурнай спадчыны і наагул культуры нерасейскіх народаў, савецкія гісторыкі кіраваліся прынцыпам вывучэньня толькі «прагрэсыўнае» культурнае спадчыны. Сказаўшы іншымі словамі — прынцыпам усемагчымага адмаўленьня таго, што адлюстроўвала нацыянальныя імкненьні данага народу. У беларускім пытаньні даходзіла яшчэ адмаўленьне гістарычнасьці беларускае нацыі. Зьвязаныя гэтымі прынцыпамі, беларускія гісторыкі літаратуры змушаныя былі як найменш гаварыць пра нацыянальную культуру мінуласьці і нацыянальна-культурнае адраджэньне мінулага стагодзьдзя ды зводзіць да мінімуму самы склад адраджэнцаў. У замен Масква дазваляла ўзалежніваць нацыянальныя праявы жыцьця (бо сам факт нацыянальнага адраджэньня бясспрэчны) ад разьвіцьця і узьдзеяньня расейскае


**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**


# Па старой традыцыі

**(Колькі Беларусаў у Польшчы?)**

На пытаньне аб колькасьці Беларусаў у Польшчы шмат хто прабаваў адказаць. Кажны адказвае парознаму. Мінімальную й схвальшаваную колькасьць беларускага жыхарства ў Польшчы, із зусім зразумелых прычынаў, падаюць самі Палякі, як камуністыя, так і некамуністыя. У гэтай тэндэнцыйнасьці якраз найбольш выяўляецца і тая традыцыйная варожасьць некаторых Палякоў да беларускага нацыянальнага руху. Іх нічога не навучыла гісторыя. Яны налічваюць у Польшчы «каля 100 тысяч Беларусаў». У свой час лік гэты падавалі польскія эміграцыйныя «Вядомосьці» сьледам за камуністычнай «Трыбунай Люду», а нядаўна — 4 кастрычніка сёлета — паўтарыў гэты лік і лёнданскі «Дзеньнік Польскі», які трызьніць усё яшчэ пра «крэсы всходне».

Вось-жа — гэта сьведамая й разьлічаная дэзынфармацыя, якую ўвесь час практыкуюць некаторыя польскія колы. Лік Беларусаў у Польшчы ўжо ад даўжэйшага часу даецца значна лягчэйшаму расшыфраваньню, чымся гэта было раней. Гэта сталася асабліва ад часу, калі на тэрыторыі Польшчы пачалося арганізаванае беларускае грамадзкае жыцьцё, г. зн., ад лютага гэтага году.

Мы тут ня ставім сабе за заданьне ўстанаўляць дакладную колькасьць Беларусаў, што апынуліся пасьля Другое сьветавае вайны ў Польшчы. Гэта зрабілі ўжо іншыя. Гэтак, прыкладам, беларускі навуковец Мікола Волаціч у сваім артыкуле «Насельніцтва Заходняе Беларусі і яго перасяленьне між сучаснай Польшчай і БССР» (гл. 4-ю кнігу «Беларускага Зборніка» Інстытуту для вывучэньня СССР) паказаў, **што ўсіх Беларусаў у Польшчы налічваецца сяньня каля аднаго мільёна 200 тысяч.** З гэтага каля 700 тысяч прыпадае на аўтахтоннае беларускае насельніцтва Беласточчыны і каля 500 тысяч на пераселеных пасьля апошняе вайны з БССР. Вылічэньні сп. Волаціча маюць сваё паважнае абгрунтаваньне, і мы туды адсылаем усіх, каго гэтае пытаньне цікавіць глыбей.

Гэтта нам хацелася-б зьвярнуць увагу на сьведамае хвальшаваньне Палякамі ліку Беларусаў у Польшчы, ня гледзячы на ўсю відавочнасьць гэтае хлусьлівасьці ды наагул непаважнасьці падыходу да аднаго з вельмі актуальных пытаньняў сучаснае Польшчы.

Калі-б успомнены ўжо «Дзеньнік Польскі» і іншыя польскія газэты хацелі быць хоць фармальна аб'ектыўнымі, дык прынамся яны павінны былі-б падаваць лік Беларусаў у Польшчы **143 тысячы** — колькасьць беларускага насельніцтва Беласточчыны, якая праз сваіх 400 дэлегатаў у лютым гэтага году ўзяла ўдзел у першым арганізацыйным зьезьдзе Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Беластоку. Гэта запраўды мінімальная колькасьць, якую, хоць і з болем сэрца, «Дзеньнік Польскі» мусіў-бы падаць, інфармуючы сваіх чытачоў. І то з наступных прычынаў:

Папершае, Беларусы ў Польшчы жывуць ня толькі ў этнаграфічна беларускай Беласточчыне, але даслоўна па цэлай Польшчы. Трэба дапушчаць пэўную колькасьць беларускіх жыхароў Польшчы, якія з тых ці іншых прычын ня хочуць ці ня могуць цікавіцца беларускімі арганізацыйнымі справамі і не маглі ўвайсьці ў афіцыйна пададзеныя 143 тысячы. Падругое, **Беларусы ў Польшчы ад самага пачатку перасьледаваліся й дыскрымінаваліся,** што, ізноў-жа, мусіла адмоўна адбіцца на беларускіх арганізацыйных і культурных праявах, а гэтым самым і на афіцыйных статыстыках.

У «Б-не» з 16. 9. 56 мы ўжо пісалі, як пры дапамозе розных інтрыгаў Палякі перашкаджаюць беларускаму нацыянальнаму ўсьведамленьню на этнаграфічных беларускіх землях, не гаворачы ўжо пра «земе одзысканэ». Гэтак, прыкладам, на скаргу аднаго з чытачоў беластоцкае ««Нівы» аб тым, што польскія паштовыя канторы заядла перашкаджаюць распаўсюджваць беларускую газэту, рэдакцыя «Нівы» адказвала: «Гэткія выпадкі не адзінкавыя. **Яшчэ ёсьць шмат такіх людзей, якім не падабаецца наш беларускі штотыднёвік, і якія сьве-**


**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**


# За мінулы тыдзень

**(пс)** Няма найменшага сумлеву, што падзеі, якія мелі месца ў Польшчы, былі цэнтрам увагі ўсяго сьвету ў мінулым тыдні. І зусім слушна, бо тое, што там адбылося, заслугоўвае на ўвагу і глыбокае перааналізаваньне. Думаем, што будзе слушным даць першы голас савецкай прапагандзе, і можа на гэтым фоне плястычна выступіць рысунак гэтых падзеяў.

20-га кастрычніка ворган КПСС «Правда» зьмясьціла артыкул «собскага карэспандэнта» з Варшавы пад загалоўкам: «Антысацыялістычныя выступленьні на бачынах польскае прэсы». Перадусім — кароткая дэгрэсія. «Правда» — альфа, омэга й аракул камуністычнае ідэялёгіі, напэўна не зьмясьціла-б выказваньняў нейкага прынагоднага дапішчыка з Варшавы, бо за такія недагледжаньні «рэдакцыйная калегія», якая падпісвае «Правду», паехала-б даіць белых мядзьведзяў, або туды, куды чорт толькі ўзіму на лыжах даяжджае. Вось-жа ў гэным артыкуле «собскі карэспандэнт» выступіў з такімі войстрымі абвінавачаньнямі польскай прэсы, з такімі абразьлівымі эпітэтамі, якія польскіх пісьменьнікаў кваліфікавалі толькі «пад сьценку» або прынамся на дваццаць пяць год «працоўна-папраўчых лягероў». Калі далічым, што якраз ў часе выдаваньня газэты, Хрушчоў, Молатаў, Мікаян і Кагановіч былі ў Варшаве, куды ехалі хіба толькі з думкай правядзеньня «пацыфікацыі», будзе аж завельмі ясным, што артыкул у «Правде» меў заданьне паказаць польскім непакорным элемэнтам кончык маскоўскага бізуна. Стрэл, аднак, трапіў у пустую, больш таго — выклікаў войстрыя пратэсты з польскага боку. Значыцца, перастала быць «Roma locuta — causa finita» — Масква сказала — амба, канец...

Яшчэ большай атракцыяй быў неспадзяваны нечаканы прылёт у Варшаву крамлёўскіх тузоў Хрушчова, Молатава, Мікаяна й Кагановіча. Тут хіба ніхто, навет савецкая прапаганда, ня будзе даказваць, што гэтыя далёка не маладыя бонзы, вось так сабе, напіўшыся пярцоўкі, зрабілі **шпацыр** з Масквы ў Варшаву. Мог-бы хтось сказаць, што яны прыляцелі прывітаць пленум ЦК польскае камуністычнае партыі, які якраз у гэтым часе адбываўся. Але яны яго ані віталі, ані бачылі, бо толькі гутарылі зь сябрамі палітбюра. А падругое, дзеля гэтага ня было патрэбы турбавацца аж чачыром бонзам — маглі-б выслаць аднаго, як гэта нядаўна зрабілі высылаючы аднаго Мікаяна на такую-ж самую ўрачыстасьць у Пэкін.

Аб чым гутарылася ў гэныя крытычныя гадзіны (бо маскоўскія госьці былі ў Варшаве толькі дваццаць гадзін), — сяньня яшчэ нельга сказаць, і ў заходняй прэсе ёсьць толькі спэкуляцыі ды набожныя пажаданьні. Усёж-такі навет савецкая прэса пішучы аб гэтым не сказала, як нармальна, што размовы адбываліся ў «прыязнай атмасфэры», а толькі што ў «атмасфэры шчырасьці й рачовасьці»... Значыцца, з прыязьняй — тугавата...

Маскоўскія госьці зматаліся так нечакана, як прыляцелі, але яшчэ перад адлётам змаглі пачуць галасы пратэсту польскага грамадзтва з нагоды непажаданай візыты і ўмешваньня ў польскія прыватныя справы. Пленум ЦК «Польскай Аб'еднанай Работніцкай Партыі» вярнуўся да далейшае працы, і ейны вынік напэўна ня цешыў Масквы. У кажным выпадку, ня думаем, каб ён пайшоў па лініі пажаданьняў КПСС, а калі навет Хрушчоў і супалка на гэтакі вынік згадзіліся — зрабілі гэта напэўна без энтузіязму.

Як ведаем, у канчальным выніку да ўлады вярнуўся пракляты бальшавікамі-сталінцамі рэпрэсіяваны Гамулка — прыхільнік польскага нацыянальнага камунізму, або моднага «цітаізму». Як ведаем, із складу палітбюро адсыпаўся савецкі маршал Ракасоўскі. Як ведаем, праграмовая прамова Гамулкі насіла выразныя антырасейскія акцэнты. І як ведаем, у сваёй праграмнай прамове Гамулка сказаў такую гэрэзію, што калі ў Польшчы зьліквідуецца, прыкладам, калектывізацыя, калгасы і саўгасы — ніхто па іх ня будзе плакаць. Мы ўжо не пералічваем іншых гэрэзіяў, якія выказваў Гамулка. Усё гэта хіба не захапляе Масквы, бо яна мусіць адчуваць, што «Roma locuta — causa finita» стаіць пад паважнай пагрозай.

Аднак кажны мэдаль мае два бакі, і таму, каб спопараску не ўпадаць у цялячыя захапленьні, як гэта робяць шматлікія палітыкі й публіцыстыя на Захадзе, — гляньма на гэты другі бок.

Гамулка — стары камуністы, на сумленьні якога ляжаць тысячы крывавых ахвяраў польскіх патрыётаў. Да гэтага, з Гамулкам засталіся на верхавіне і Охаб, і Цыранкевіч, і Завадзкі, і іншыя дасюлешнія кіраўнікі Польшчы. Адзін казёл адпушчэньня — Ракасоўскі, яшчэ ня робіць вясны. Няма сумлеву, што Гамулка ў сваёй прамове хацеў трапіць у тон польскім масам, хоць ягоныя поклоны Леніну й КПСС гучэлі дысанансам, але ці гэта ня была тактычная прыхватка для заспакаеньня ўзбураных жарсьцяў? Аднак, дапусьцім, што Гамулка шчыра хоча камплетна адарвацца ад маскоўскай Мэккі. Ці ён можа гэта зрабіць пры цяперашнім гэаграфічным, палітычным і эканамічным палажэньні Польшчы? Ці тут не патрэбныя якія энэргічныя крокі з боку Захаду, і ці яны будуць?

Думаем, што наступны тыдзень, хоць ня прынясе адказаў, дасьць пэўныя сымптомы да далейшых гіпатэзаў...

Хоць можа ў вузейшым маштабе, але вельмі характэрныя падзеі мелі месца ў вапошнім тыдні і ў Вугоршчыне.

Пакінуўшы на баку ўсялякія пасьмяротныя й дасьмяротныя рэгабілітацыі, антыкамуністычны й антымаскоўскі рух сярод моладзі таксама прынёс вынікі.

Напрыклад, студэнты зажадалі зьнясеньня прымусовага навучаньня расейскае мовы на ўнівэрсытэтах, і міністэрства асьветы мусіла з гэтым пагадзіцца. Далейшыя намаганьні скарачэньня лекцыяў марксізму-ленінізму, зьнясеньня пакараньня сьмерцяй, дазволу на свабодныя выезды за межы, свабодных і дэмакратычных выбараў, спыненьня калектывізацыі і іншыя, хоць яшчэ чакаюць на канчальнае вырашэньне, але ўжо той факт, што яны былі пастаўленыя, сьветчыць, як далёка пайшлі антыбальшавіцкія настроі.

З гэтага ўсяго бачна, што ліповая дэмакратызацыя, якую Хрушчоў пад маскай дэсталінізацыі неасьцярожна распутаў на XX зьезьдзе КПСС, выйшла спад кантролю Крамля ў Польшчы й Вугоршчыне. Гэты працэс Масква магла-б яшчэ перасеч сілай, толькі, што гэта было-б для яе вельмі кампрамітуючым на міжнароднай арэне. Тым больш цяпер, калі Хрушчовы, Булганіны й супалка так удала замаскаваліся змагарамі з паняволеньнем і каляніялізмам. Таму яны й лётаюць ды намагаюцца лагодзіць.

І калі...

Але мы йзноў узлазім на нашага заежджанага коніка: «Калі Захад...»

⁎

Ізноў-жа ў віры падзеяў у Польшчы й Вугоршчыне амаль незаўважна прайшла візыта японскага прэм'ера ў Маскве і японска-савецкая ўмова. Праўда, гэта ня было нічым устрасаючым, ані дало шмат новага. Проста скончылася японска-савецкая вайна, якая скончылася ўлетку 1945 году. Другая сусьветная вайна скончылася ў мінулым тыдні...

**P. S.**

Быццам- бы прыпадкам, побач з вышэй успомненым артыкулам у «Правдзе» знайшлася кароткая зацемка ТАСС-у, што Шэпілаў прыняў усходня-нямецкага пасла Кэніга і меў зь ім гутарку.

У простай мове, гэта трэба было чытаць: «Сьцеражэцеся, Палякі, бо вы паміж молатам і кавадлам — СССР і Ўсходняй Нямеччынай, і гэта можа вам ня выйсьці на здароўе. Таму не расьперазвайцеся занадта...»

Савецкую прэсу трэба чытаць паміж радкамі...

# Новая праца аб Кастусю Каліноўскім

**(Заканчэньне з папярэдняга нумару)**

Далей аўтар прысьвячае шмат месца палітычнаму фармаваньню й адукацыі Кастуся Каліноўскага ў часе ягоных студыяў у Пецярбургу. У той час там была ладная колькасьць студэнтаў зь земляў Беларусі й Лятувы; гэтая моладзь, хоць у васноўным належала да польскай рэвалюцыйнай дэмакратыі, у сваёй праграме галоўнай мэтай ставіла сацыяльнае й нацыянальнае вызваленьне Беларусаў і Лятувісаў. Вось у гэтыя рэвалюцыйныя колы й быў уведзены Кастусь Каліноўскі сваім старэйшым братам Віктарам, дзе ён хутка стаўся вельмі актыўным рэвалюцыянэрам-кансьпіратарам. Між іншым аўтар кніжкі адзначае, што Кастусь разгарнуў тут дзейнасьць шырэйшую, чымся Віктар і дзеля таго ён быў усім больш ведамы за апошняга; у выніку-ж здаралася часамі, што дзейнасьць старэйшага брата прыпісвалася малодшаму — Кастусю.

Зазначыўшы, што ў гэным пэрыядзе К. Каліноўскі шмат чытаў, студыяваў, аналізаваў ды засвойваў новыя думкі й кірункі, аўтар далей піша даслоўна наступнае: «Кастусь у гэным часе што раз больш праяўляў ініцыятывы, што раз больш выяўляўся даспелым дзеячом, які часта перавышаў шматлікіх супрацоўнікаў сваім палітычным розумам. сілай волі, дарам вымовы й трапнасьцяй суду. Пераймаючы ад сваіх узгадаваўцаў найлепшыя рысы характару, вырастаў ён на дзеяча вялікага маштабу. Ягоныя рысы характару й усебаковая палітычная адукацыя выклікалі да яго сымпатыю й пашану сярод людзей ня толькі ідэйна блізкіх яму, але й сярод ягоных палітычных праціўнікаў» (б. 66).

Закончыўшы у 1860 г. факультэт права Пецярбурскага ўнівэрсытэту із ступеняй кандыдата навук. К. Каліноўскі вяртаецца ў Горадзеншчыну, дзе пачынае весьці актывную арганізацыйную працу сярод сялянства. Аўтар кніжкі змушаны тут шырэй разглядзець сацыяльныя й палітычныя дачыненьні ў Беларусі ды тыя праблемы, якія пачалі выплываць у сувязі з надыходзячай сялянскай рэформай — скасаваньнем прыгону. Трэба адцеміць, што сп. Кардовіч даволі глыбока, аб'ектыўна й усебакова разгледзеў тут тое скамплікаванае палажэньне, у якім апынуўся К. Каліноўскі напярэдадні паўстаньня 1863 г. Мы бачым тут з аднаго боку прапольскія ці проста польскія элемэнты — шляхта й часткава магнаты — для якіх мэта паўстаньня — гэта вызваленьне гэтых земляў спад царскае ўлады й далучэньне іх да будучай Рэчыпаспалітай; гэтыя элемэнты ў пытаньні разьвязаньня сялянскае праблемы не хацелі йсьці далей за разьвязку, якую нясла рэформа 1861 г., а рыхтуючыся да паўстаньня яны не хацелі поўнасьцяй ставіць стаўку на сялянства, баючыся, што ўзварушаныя народныя масы цяжка будзе кантраляваць, а ў выніку можа дайсьці да паўтарэньня г. зв. «галіцкае разьні». З другога-ж боку, сялянскія масы сваім беспасярэднім ворагам лічылі шляхту й магнатаў, і таму клічы змаганьня за палітычнае вызваленьне краю то кіданыя гэтымі апошнімі не маглі пацягнуць сялянства, якому ў першую чаргу залежала на сацыяльным вызваленьні. Калі да гэтага дадаць яшчэ хітрую царскую палітыку, якая ўжо ў часе паўстаньня пачала сыпаць абяцанкі сялянству ды й на практыцы прыступіла да паглыбленьня рэформы 1861 г., каб толькі ўтрымаць масы ад паўстаньня, калі ўжо не ўдаецца справакаваць іх на змаганьне супраць паўстанцаў, дык можна сабе ўявіць усю складанасьць праблемы й тыя цяжкасьці, што сталі перад Каліноўскім. Гэты-ж апошні ставіў за мэту як сацыяльнае, так і нацыянальнае вызваленьне Беларусі, прычым у змаганьні разьлічваў перадусім на сялянскія масы, хоць ня выключаў і шляхты, ведаючы, што самое сялянства яшчэ не належна падрыхтаванае, каб весьці такое змаганьне. На гэтым фоне аўтар вельмі падрабязна насьвятляе ўсялякія інтрыгі з боку магнатаў і шляхты. уплывы якіх пераважалі ў паўстанскім варшаўскім цэнтры, спрытныя й дыпляматычныя крокі Кастуся Каліноўскага, які спачатку не парываючы з гэтым цэнтрам. імкнуўся рэалізаваць свае мэты, ды нарэшце парваньне з варшавскім цэнтрам. калі той афіцыйна стаў на пазыцыях адзінае польскае дзяржавы ў межах 1772 г.

Асобны падразьдзел прысьвячаецца ў кніжцы прэсе й прапагандзе, дзе шырока камэнтуюцца ўсе нумары выдаванай Каліноўскім «Мужыцкай Праўды». Яшчэ ўва ўступе аўтар адзначае, што ён свайго часу меў магчымасьць бачыць і карыстацца «Мужыцкай Праўдай», а дзеля таго шкада (калі аўтар ня меў магчымасьці пішучы кніжку) і незразумела (калі такую магчымасьць меў), што ў кніжцы няма ніводнае фатакопіі «Мужыцкае Праўды», у той час як тут ёсьць такія фатакопіі, як «Колокола» й «Полярной Звезды».

Цікавыя дадзеныя знаходзім у кніжцы аб тэроры Мураўёва. Аўтар прыводзіць цэлы шэраг назоваў спаленых вёсак, павешаных без абвінавачаньня сялян. назовы месцаў экзэкуцыяў і г. д. У часе самага разгару мураўёўскага тэрору шмат адказных кіраўнікоў заломвалася нэрвова й уцякала ў Варшаву ці на Захад. У сувязі з гэтым аўтар піша: «Адзіны Кастусь Каліноўскі патрапіў працаваць ува ўмовах такога тэрору...» (б. 250). Што да тэрору на правінцыі, дык аўтар кажа: «Але тэрор не абмяжоўваўся толькі да канфіскатаў і ссылкі ў Сібір. што ў такіх выпадках адно з другім было зьвязана. Адпаведныя абежнікі й распараджэньні Мураўёва давалі права бяз суду ссылаць на выгнаньне людзей цэлымі сем'ямі, ліквідаваць іх на месцы. а навет зьнішчаць цэлыя паселішчы. І так. шмат вёсак было спалена. а зямля на гэтым месцы загараная» б. 254).

Як бачым, пазьнейшыя практыкі верных спадкаемцаў царскае самаволі — бальшавікоў — ня былі новым вынахадам, а толькі прадаўжэньнем традыцыйных расейскіх мэтадаў расправы з паняволенымі народамі.

Далей аўтар адзначае, што пасьля арышту ў часе сьледства над Каліноўскім зьдзекваліся ня толькі маральна, але й фізычна. І тым ня менш, «былі мамэнты ў часе сьледства, калі падсудны Каліноўскі ўваходзіў у ролю судзьдзі, судзячы праступствы царскае ўлады ў гэтым нешчасьлівым краі. Гэтая годнасьць прызнаньняў у ваблічвы маестату нямінучае сьмерці, навет сярод тупых царскіх урадоўцаў выклікала мімавольную пашану да Каліноўскага» (б. 265).

У вапошнім разьдзеле гэтае кніжкі, пад загалоўкам «Кастусь Каліноўскі ў сьвятле гістарычнае праўды», аўтар ставіць пытаньне, кім быў Кастусь Каліноўскі і за што загінуў. На гэтае пытаньне ён адказвае наступнымі словамі: «Злажыў ён сваё жыцьцё ў ахвяру беларускаму народу; сваім маладым, але вялікім розумам, сваім вялікім сэрцам патрапіў ён стварыць сынтэзу жаданьняў беларускага народу і кінуць зарыс візіі будучага лёсу гэтага народу. Гэта вялікія заслугі; мог іх дасягнуць толькі чалавек, які ўжыўся ў жыцьцё народу, зразумеў яго цярпеньні й радасьці, патрэбы й жаданьні, які стаўся найкаштоўнейшай часткай народу — яго народным героем» (б. 283).

Гэтак піша польскі аўтар. Як-жа хвальшывымі пасьля гэтага выглядаюць цьверджаньні праф. Вакара (успамінанага ужо ў першай частцы гэтага агляду), які сьмее яшчэ пісаць, што Каліноўскі — гэта разьдзьмуты міт беларускіх нацыяналістых.

Як цэласьць, гэтая кніжка В. Кардовіча становіць сабой карысны ўклад да пазнаньня выдатнае постаці нашае гісторыі — Кастуся Каліноўскага. Як ужо гаварылася ў першай частцы гэтага агляду, адмоўнымі бакамі яе трэба лічыць зусім непатрэбныя пакліканьні аўтара на «клясыкаў» марксізму для падмацоўваньня некаторых цьверджаньняў, і то асабліва, калі йдзе аб сацыяльна-эканамічныя дачыненьні на Беларусі тых часоў. Гэтыя дачыненьні на столькі шырока разгледжаныя навукоўцамі, што няма патрэбы карыстацца дапамогай менш чым сумлеўнай якасьці аргумэнтаў марксыстоўскай дыялектыкі.

**А. Галубіцкі**

# Беларуская гімназія ў Навагрдку

**(Успаміны)**

Вучыся, нябожа, вучэньне паможа
Змагацца зь нядоляй, зь няволяй...
Што муча сягоньня, што думкі трывожа,
Зьбяжыць і ня прыйдзе ніколі.

**Я. Купала**

Беларускія гімназіі, што йснавалі пасьля першай сусьветнай вайны ў Польшчы, згулялі ці не найбольшую ролю ў сэньсе далекасяжнасьці, трываласьці й прагрэсу адраджэньня нашай Бацькаўшчыны праз навучаньне й узгадаваньне нашага маладога пакаленьня, якое, прайшоўшы цярністы шлях, прыймае сягоньня актыўны ўдзел у далейшым змаганьні за волю й незалежнасьць Беларусі. Да ліку гэтых гімназіяў належала й Беларуская Гімназія ў Навагрдку, што зьяўлялася ня толькі кузьняй навучаньня й узгадаваньня моладзі, але й цэнтрам аб'яднаньня сьведамага беларускага элемэнту й пашырэньня па цэлай Навагрдчыне, а можа й далей, узгадаваўчае нацыянальнае працы. Настаўніцкая штодзённая праца, што вымагала цярплівасьці й ахвярнасьці, не зьяўлялася тады аб'ектам, які прыносіў эфэктоўныя сукцэсы, славу й матарыяльныя выгады. Звычайна настаўнікі, пасеяўшы зерне веды й нацыянальнага ўзгадаваньня на ніве беларускай, часта трацілі свае сілы й адыходзілі ад нас у вечнасьць незаўважанымі грамадзтвам. Гэтаму спрыяла ў значнай меры няволя каляніяльнае сыстэмы нашай Бацькаўшчыны. Так сталася з апошнім дырэктарам Навагрдзкай Беларускай Гімназіі Я. Цеханоўскім, які, пасьля закрыцьця гімназіі, быў высланы з Навагрдчыны й неўзабаве памёр на высланьні. Праўдападобна й некаторыя старэйшыя настаўнікі, якія не пакінулі роднага краю, ужо ня жывуць.

Дзела таго, што я зьяўляюся адзіным настаўнікам на эміграцыі гэтае гімназіі й што, праўдападобна, шмат чаго ня ведама шырэйшаму грамадзтву зь яе жыцьця, лічу сваім абавязкам пакінуць у форме кароткіх успамінаў сьлед для гісторыі, тым больш, што мой удзел у жыцьці гэтае гімназіі быў амаль ад пачатку да ліквідацыі яе польскай уладай — на пачатку ў ролі апякуна свайго брата — вучня, а пазьней ужо ў ролі настаўніка.

*

Арганізацыя Навагрдзкай Беларускай Гімназіі была зусім адменная ад арганізацыі гімназіяў у нармальна йснуючых гаспадарствах, якія прызначаюць на гэта пэўныя субсыдыі, настаўнікаў, будынак і г. д. Яна ня мела гэтых нармальных умоваў апрача моцнае волі й ахвярнасьці настаўнікаў ды сьведамае кампактнае масы беларускага жыхарства Навагрдчыны. Дзеля большага зразуменьня паўстаньня гімназіі ў паняволенай Беларусі, неабходна хоць коратка зьвярнуць увагу на пераходныя гістарычныя падзеі, што адбыліся перад адкрыццём яе ды спрыялі заніку гэтак доўга дзеючай забароны беларускага школьніцтва расейскаю ўладаю.

У верасьні 1915 г. заходняя частка Навагрдзкага павету з горадам Навагрдкам была занятая Немцамі й расейска-нямецкі фронт устабілізаваўся да конца першае сусьветняе вайны на Нёману й яго даплыву Сўрвячы. У часе вайны ўсе мястэчкі й вёскі Навагрдчыны ў франтовай паласе былі зьнішчаныя дашчэнту й на іхных месцах былі збудаваныя акопы ды рознага выгляду бліндажы. У 1919 г. Немцы адыйшлі й Навагрдчыну занялі бальшавікі, якія адчынілі ў г. Навагрдку расейскую школу другой ступені. Ня доўга прыйшлося йснаваць гэтай школе, бо Навагрдчына дый уся Беларусь стала пляцдармам новых ваенных падзеяў паміж ужо бальшавікамі й Польшчай. Зьнішчэньне ды абядненьне ад расейска-нямецкай вайны яшчэ больш пашырылася ў Навагрдчыне ў выніку некалькіразовага пераменнага пераходу ваюючых арміяў. Голад, як вынік даўгагадовай вайны, спрычыніўся, асабліва ў усходняй Навагрдчыне, да сьмерці значнай колькасьці жыхарства, якое вярнулася на свае котлішчы й жыло ў зямлянках. У 1921 г. нарэшце быў падпісаны Рыскі мір паміж Польшчай і бальшавікамі й Навагрдчына была прылучана да Польшчы. Раптоўная зьмена расейскага калянізатара на польскага была ня лепшаю для беларускага насельніцтва й у першую чаргу беларускай інтэлігенцыі, якая была адсунена ад дзяржаўных і грамадзкіх установаў, каб даць мейсцы Палякам з цэнтру Польшчы ды насаджаным на беларускай зямлі польскім асаднікам з мэтаю полянізацыі. Гэтае духовае й аграрнае паняволеньне беларускага насельніцтва змушала яго шукаць выхаду з такога прымусовага тупіку....

У самым Навагрдку было ў бальшыні жыдоўскае жыхарства, якое пад уплывам даўгое русыфікацыі трымалася расейшчыны, што ўплынула на адкрыцьцё прыватнае расейскае гамназіі гуманістычнага тыпу ў 1921 г., як прадаўжэньне бальшавіцкай школы другой ступені. Настаўнікамі яе былі пераважна Беларусы на чале з дырэктарам таксама Беларусам, а ў вучнёўскі склад уваходзілі Беларусы, Жыды, Татары й Расейцы. Гаспадаром гімназіі быў Бацькаўскі камітэт з старшынёю сьвятаром Б. Бабкоўскім (пазьнейшым Япіскапам Бэнэдыктам). Маладая польская ўлада, калі быў яшчэ тэарытычна модны прапагандовы лёзунг: «За нашую й вашую вольнасьць», лічылася з фактам існаваньня гімназіі, але ніякае матарыяльнае дапамогі не давала. Абітурыенты гімназіі ня прыймаліся ў польскія высокія школы таму, што польская школьная ўлада ня прызнавала матуральных пасьветчаньняў раўнапраўнымі з польскімі матурамі. З гэтае прычыны Жыды й другія паступова пачалі пераходзіць у польскую гімназію, што прысьпяшыла замену расейскае гімназіі на беларускую.

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

Зьвязана лыкам і дротам. Старая стрэльба. Яшчэ можа Швэд згубіў яе тут трыста гадоў таму назад. А мужыку добра было пастрашыць часам ваўка зімою, або на начлег узяць.

Едзе цэлы абоз паліцыі: прыстаў, два вураднікі, стражнікоў з дваццаць; із стрэльбамі, шаблямі, нагайкамі.

І куды едуць? Адбіраць у мужыка стрэльбу.

Праўда, наш Сымон Таўкач гаварыў, што мужык той быў чуць не сацыялісты: панскую кабылу назваў брыдка й земскага калісь дурнем злаяў перад соцкім.

Акружыла паліцыя хату. Каля вакна — па стражніку. Сам прыстаў з вураднікамі й стражнікамі ўваходзяць у хату.

— Дзе ружжо? Падавай яго сюды, мярзавец! — крычыць начальства й нагамі тупае.

— Якое там, паночку, ружжо? Адно цьфу — нічога болей. Паказаць брыдка.

— Не рассуждаць, дурак!

— Ня крычэце, паночку. Вунь дзеці перапалохаліся, плачуць.

— А табе хто разрашыў іх...?!

Мужык аж рот разявіў: ніколі ён ня чуў, каб на гэта трэба было браць «разрашэньне» ў паліцыі.

Арыштавалі мужыка й стрэльбу забралі.

Потым ужо, як выпусьцілі, сьмяяўся Кандрат:

— Да чаго мы, братко, дажыліся! На дзеці бялет трэба браць.

От хіба слабода, дык слабода!

**БЕЛАРУСАМ**

Устаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі,
Ўстань ты, наша старана!
Ўжо глядзіць к нам на палаткі
Жыцьця новага вясна.

Ці-ж мы, хлопцы, рук ня маем?
Ці-ж нам сілы Бог ня даў?
Ці над родным нашым краем
Луч свабоды ня блішчаў?

Выйдзем разам да работы!
Дружна станем, як сьцяна, —
І прачнецца ад драмоты
З намі наша старана.

Першы Коласаў друкаваны верш — «Наш родны край» — найлепшая дэманстрацыя спадкаемнага радаводу паэты ад Лучыны-Няслухоўскага, ад ягонага «Роднай старонцы» ў канкрэтным выпадку дадзенага вершу (падобна, як раней першы Купалаў друкаваны верш — «Мужык» — такжа дэманстраваў такі-ж радавод гэтага паэты ад Багушэвіча, ад ягонага «Дурны мужык» у канкрэтнасьці). Адылі, Лучынава прыбядняльнае абагульненьне — «усё ў табе бедна» — у Коласа разгортаецца ня толькі зь яшчэ большай паартыкульнай падрабязнасьцяй у куды змрачнейшым асьвятленьні двух усяго нязьменных настырлівых, а аднолькава чорных таноў — «беднага» й «нуднага», — але й безь якога-небудзь ужо загоджаньня арэолам нацыянальнага эрасу й пракакавальнага паднадзеяньня «сонцам скрозь хмары цёмныя» й «добраю доляю, доляй шчасьліваю». Гэны Лучынаў арэол нацыянальнага эрасу заступлены тут цярнёвым вянком нацыянальнае мізэрыі-бяды, праз якую тая-ж любасьць да роднага праглядае ўжо нязьмерным жалем і болем за гэтае роднае, а паднадзеяньне будучыняй — калі не адчаем безнадзеі, дык, у кажным разе, роспачай беспрасьвецьця «нуднае нашае долі, нашае цемнаты».

У гэткім завастрэньні ўспадкаемленага ад канцавечніхаў прыбядненьня й фармуецца ўжо тут той камплекс мізарацтва, прыніжэнства, што ў далейшым нашаніўсьцьве стаецца гэтак характэрным яму. За камплексам гэтым перш-наперш, пэўна-ж, накіданы панявольнікамі-акупантамі камплекс ніжэйшасьці на аснове творанага імі-ж міту аб надзвычайнай быццам-бы «асталасьці», беднасьці матар'яльнай і духовай Беларусі й Беларусаў. Адылі, з другога боку, апрача гэтага вонкавага ўплыву, ня менш прычынны тут і нутраны дзейнік падмацоўванае камплексам «мужыкоўства» ўгрунтаванае на фактычным стане рэчаў канцэпцыі абмежанасьці да «бяспанскае», «мужыцкае» вылучна, у сьвятле якой і нацыянальная тэрыторыя — «родны край» — пасвойму лягічна пачынае абмежвацца ў сьведамасьці да тых толькі, якраз горшых, бяднейшых частак гэтае тэрыторыі, што былі ў беспасярэднім карыстаньні гэнае «бяспанскае» нацыі, тымчасам як усе лепшыя, багатыя ў тым ці іншым дачыненьні часткі належалі да «панскіх», чужых і варожых сацыяльна й нацыянальна элемэнтаў і гэтым выпадалі з абсягу «свайго», «роднага» навет і краю (прынамся, пасьлей гэтак апраўдваўся дадзены мамэнт і тымжа Коласам у «Новай Зямлі», і Купалам у дыскусійных выступах). Нарэшце, нельга ня бачыць і трэйцяга апраўданьня, чыста тактычнага й практычнага, у жаданьні згушчэньня хварбаў нацыянальнае мізэрыі больш распальваць энтузіязм да працы над паправаю стану — да тае працы на «нашым палетку», да якое заклікала першым словам Пашкевічанкі адразу-ж «Наша Доля» — не здарма-ж Коласаў «Наш родны край» канчае сабою той першы нумар яе, які пачынае Пашкевічанчын «Наш палетак», якбы падмацоўваючы, абгрунтоўваючы яго (магчыма, што й паўстаў ён як рэпліка рэдактаркі-Пашкевічанкі на матар'ял, дасланы супрацаўніком-Коласам; дарэчы, ведама, што якраз дадзены Коласаў верш яна вельмі любіла дэклямаваць на першых беларускіх публічных тэатральных вечарынах).

У трох Коласавых вершах у «Нашай Долі» якга пачародна прадстаўленыя тры асноўныя на даўжэйшы час гэроі ягонае (дый папраўдзе й іншых нашадольцаў-нашаніўцаў) паэзіі: лірычны наракальнік («Наш родны край»), лірычны апісальнік («Асеньні вечар»), уведзены ўжо Пашкевічанкаю, ды рэтарычны клікальнік («Беларусам»). Як раней, так і цяпер ды пасьлей пераважвае іншых у Коласа наракальнік, вызіраючы часта й з-за апісальніка (як тут у канцоўцы вершу «Асеньні вечар») і з-за рэтарычнага (як раней у «Ворагам»; адылі й у цяперашнім «Беларусам», хоць і найменш можа як дзе інш, а вычуваецца ткі ягоная постаць за саманаракальным адценьнем першых двух рэтарычных «ці-ж»).

Коласавы вершы ў «Нашай Долі» выразна ўжо дэманструюць і тое-ж, што ў Лучыны-Няслухоўскага, ад яго ўспадкаемленае сьведама-пазытыўнае дачыненьне да літаратурнасьці. Ня менш выразна аднак выяўляецца тут і арыентаваньне гэтае літаратурнасьці не далей і ня вышэй, як на школьна-хрэстаматыйныя ўзоры таго часу (як «Край ты мой, родимый край» А. К. Талстога, «Зимний вечер» А. Пушкіна ды інш.). Гэтая хрэстаматыйнасьць і характарызуе літаратурнасьць Коласавых вершаў на даўжэйшы далейшы час.

Першая празаічная Коласава спроба — «Слабода» становіць сабою нешта пераходнае ад газэтнае карэспандэнцыі праз газэтны-ж «маленькі фэльетон» да гумарэскі-анэкдоту, «жарту», гэтак папулярнага пасьлей у нашаніўсьцьве. Палітычнае захварбаваньне яе, як і вершу «Беларусам», заважыла на канфіскацыі тых нумароў «Нашае Долі», дзе гэтыя рэчы зьявіліся. Жанрам, у васнове якога анэкдот, Коласава «Слабода» ў такіх-жа зародках беларускае прозы, як і сучасная ёй Пашкевічанчына «Прысяга», у якой можна дабачаць адзнакі другое зародкавае формы прозы — апатэгмы. Тут-жа пачынае разгортацца выяўленая ў зачатках і раней гэтак прыродная Коласу, дый бадай усім нашым, стыхія гумару.

**(Далей будзе)**

# Беларуская гімназія ў Наваградку

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

Ужо ад самага пачатку йснаваньня гімназіі настаўнікі — Беларусы й сьведамыя прадстаўнікі грамадзтва пачалі паступовы пераход гімназіі з выкладовае расейскае мовы на беларускую. З гэтаю мэтай быў запрошаны беларусавед Я. Цеханоўскі, які пачаў выкладаць беларускую мову ў старэйшых клясах, а малодшыя клясы поўнасьцю перайшлі на выкладовую беларускую мову. Такім чынам праз пару гадоў Наваградзкая гімназія ператварылася ў беларускую з выкладаньнем паляністыкі (польскае мовы й гісторыі). Адначасна яна ператварылася з гуманістычнага тыпу ў матэматычна-прырадаведны тып. З кажным годам насельніцтва Наваградчыны ўсё больш залечвала глыбокія ваенныя раны й палепшвала свой гаспадарскі быт ды ўсё больш і больш пасылала сваіх дзяцей у родную гімназію. У жыцьці гімназіі прыймалі актыўны удзел беларускія дзеячы Наваградчыны, як бацькі сваіх дзяцей ды апякуны, на чале з паслом і сэнатарам у польскім парлямэнце сьв. п. В. Рагулям і адвакатам сьв. памяці П. Сьвірыдам. Мясцовая польская ўлада адносілася варожа да гімназіі й таму яна ўстаўляла розныя дручкі ў нармальнае кола яе жыцьця. Дзесяткі мэмарандумаў было зложана ў міністэрства асьветы Бацькаўскім камітэтам з мэтаю абароны яе ад шавіністычнае мясцовае ўлады. Пэрсанальна найбольш перасьледаваўся настаўнік Я. Цеханоўскі, як больш актыўны дзеяч беларускі ў Наваградчыне, які змушаны быў пакінуць гімназію й выехаць у Францыю. Вярнуўся ён у Наваградак у 1928 г. пры новым ваяводзе Бэчковічу на дамаганьні жонкі й беларускага грамадзтва.

Віленская Кураторыя, якой безпасярэдня падпарадкавалася гімназія, візытавала яе й дамагалася, каб настаўнікі, якія ня мелі польскіх дыплёмаў, склалі настаўніцкі фаховы эгзамен і паляністыку пры ўнівэрсытэце, што давала права на выкладаньне ў сярэдняй школе. Гэтыя вымаганьні выконваліся да азначанага часу й настаўніцкі пэрсанал гімназіі паступова здабываў правы, што яшчэ больш замацоўвала яе йснаваньне.

Беларускае грамадзтва плаціла ўсе дзяржаўныя й грамадзкія падаткі й таму мела права на фінансавую дапамогу гімназіі, але ў рэчаіснасьці ня было гэтага да 1929 г. Бацькаўскі камітэт гімназіі зь вялікімі цяжкасьцямі аплачваў наняты дом пад гімназію й мізэрную пэнсію настаўнікам за фактычныя навучальныя гадзіны. Часта камітэт ня выплачваў пэнсіі настаўнікам па некалькі месяцаў і некаторым зь іх бацькі вучняў памагалі емінай. Памешканьне пад гімназію было малое й навука адбывалася ў дзьве зьмены, што яшчэ больш ускладняла працу настаўнікаў. Толькі надзвычайная прывязанасьць настаўнікаў да школы, самаадданасьць і згода ды зычлівыя дачыненьні грамадзтва Наваградчыны змаглі паканаць усе недахопы матарыяльнага характару й стварыць маналіт у вабароне гімназіі перад яе ліквідацыяй польскаю ўладаю ў першым этапе яе йснаваньня.

**А. Негнявіцкі**

(Далей будзе)

*Зь беларускага жыцьця*

# Беларуская моладзь у ЗША

**Пяты зьезд Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы**

№ 3 «Бюлетэню» ЗБМ у Кліўлэндзе паведамляў:

«20 кастрычніка адбудзецца пяты зьезд ЗБМА. Месца зьезду — Нью Ёрк. Пачатак зьезду а 12-й гадзіне... Зьезд будзе прадаўжацца зь вялікім тэмпам, бо маем на гэта ўсяго толькі пяць гадзін. Увечары а 8-й гадзіне пачнецца вечарынка, там-жа дзе й зьезд.

«У нядзелю 21 кастрычніка, а 10-й гадзіне раніцы, служба Божая ў царкве Сьв. Тройцы 345 Іст 4-я вул. Пасьля службы ўсе накіроўваюцца да Мак Карран Парку ў Брукліне, дзе будзе разыграны сяброўскі матч між дружынамі «Пагоня» й «Беларусь». Прыблізна а 3-й гадзіне папаўдні моладзь з Кліўлэнду зможа ад'ехаць дадому. Падарожжа на зьезд з Кліўлэнду адбудзецца машынамі...»

☆

**Беларускія студэнты**

З таго-ж нумару «Бюлетэню» ЗБМ у Кліўлэндзе даведваемся:

«Цяпер у Калюмбус мы маем невялікую беларускую калёнію, зложаную із студэнтаў. Студыююць там сябры Аляксандар Жогла, Кастусь Семянчук, Васіль Сівакоў — усе інжынерыю, а Сьцяпан Кісель, Міхась Яраховіч і Аляксей Міхальчык — камэрцыйныя навукі. Летась вучыўся там Міхась Белямук і Валодзя Шульжыцкі, але з-за матарыяльных прычын змушаныя былі пакінуць навуку, а шукаюць працы. В. Шульжыцкі выехаў у штат Колёрадо, а М. Белямук прыехаў у Кліўлэнд. На наступны акадэмічны год пляную ізноў пайсьці на ўнівэрсытэт, каб закончыць свае гістарычныя студыі. У прыватных унівэрсытэтах у Кліўлэндзе студыююць наступныя сябры БСТА: Іра Каляда, Мікола Ягаўдзік, Кастусь Маталыцкі й Лявон Харытановіч, а карэспандэнцыйна бяруць лекцыі сябры Юрка Каляда й Мікола Латушкін».

**Справазданьне футбольнае дружыны «Пагоня» за 1955/56 г.**

| Дружыны | Вынік | Здаб. пункты |
|---|---|---|
| (Гульні на пункты) | | |
| Пагоня-Мадзяры | 5:0 | 2 |
| Пагоня-Латышы | 5:3 | 2 |
| Пагоня-Полёнія | 1:1 | 1 |
| Пагоня-Львы (Укр.) | 2:1 | 2 |
| Пагоня-Саксонцы | 5:0 | 2 |
| Пагоня-Украінцы | 9:0 | 2 |
| Пагоня-Мадзяры | 1:4 | 0 |
| Пагоня-Львы | 0:1 | 0 |
| Пагоня-Латышы | 1:1 | 1 |
| Пагоня-Мэнсфілд (Немцы) | 10:0 | 2 |
| Пагоня-Полёнія | 2:2 | 1 |
| | **41:13** | **15** |
| (Сяброўскія гульні) | | |
| Пагоня-Бартунэк | 1:0 | |
| Пагоня-Аўстрыя | 0:7 | |
| Пагоня-Полёнія | 3:3 | |
| Пагоня-Нёман | 7:1 | |
| Пагоня-Львы | (незакончана) | |
| | **11::11** | |
| (Гульні за кубак Огаё) | | |
| Пагоня-Джуньёр Гайтс | 4:2 | |
| Пагоня-Мэнсфілд | 4:6 | |
| | **8:8** | |

**Здабытыя месцы ў лізе**

1. Пагоня .......... 15 пунктаў
2. Латышы .......... 13 "
3. Мадзяры .......... 12 "

**Усе сябры дружыны «Пагоня» досталі мэдалі за першае месца.**

(Зь «Бюлетэню» № 3 ЗБМ у Кліўлэндзе)

# Фарызейскае ігрышча

Мала хто зьвяртае ўвагу на тое цыркавое ігрышча, якое апошнімі месяцамі на сваім прыхадзкім панадворку шумна спраўляе Хмара. Абраз гэта пацешны, для Хмаравай дэмагогіі асабліва характэрны.

Пачалася справа з таго, што адзінаму сьвятару адзінага Хмаравага прыходу надакучыла, відаць, таварыства калатлівага фюрэра й ён задумаў прыход кінуць. Дзеля гэтага Хмары давялося шукаць новага сьвятара й ён пачаў стараньні, каб з Францыі выпісаць архім. Фінкоўскага, які й меў прыехаць у Канаду нейдзе ў ліпені.

Тымчасам яшчэ ў сакавіку а. Лапіцкі выдаў у Нью Ёрку сваім коштам, а пад фірмаю Беларускай Цэнтральнай Рады кніжку «Зь гісторыі Праваслаўнай Царквы...», кніжку напісаную ягоным сваяком Іванам Іванавічам Касяком. У кніжцы на колькіх балонах а. Фінкоўскі апісаны як сьвятар «неадукаваны й нездавальняючых маральных якасьцяў», як былы блізкі супрацоўнік нямецкага СД (бясьпека) ў Менску, які пазьней трапіў пад сьледзтва, быў арыштаваны й у канцы выселены зь Беларусі за «праступствы матар'яльнага й маральнага характару», і г. д. Кніга гэтая выдаўцамі была разасланая па Амэрыцы й усім сьвеце, і ня дзіва, што хутка яна дала й свае вынікі: на пачатку ліпеня консуляты адабралі а. Фінкоўскаму выстаўленыя яму раней візы на пераезд у Канаду. Калі ўзяць на ўвагу пералічаныя вышэй цяжкія абвінавачаньні, падмацаваныя аўтарытэтам праваслаўнага-ж сьвятара а. Лапіцкага й да гэтага яшчэ іменем БЦР, крок консулятаў быў нармальнаю зьяваю: ясная-ж рэч, што ніводная, што шануе сваё імя й дбае пра сваё дабро дзяржава, ня схоча ў свае межы ўпускаць «маральнага й матар'яльнага» праступніка, як накляймавалі а. Фінкоўскага ў сваёй кніжцы ейныя выдаўцы Касяк-Лапіцкі.

Ды гэткім «атэстатам маральнасьці», падмацаваным найвышшымі «дзяржаўнымі» й царкоўнымі «аўтарытэтамі» зарубежжа — БЦР і а. Лапіцкім — выдаўцы кніжкі ня толькі зачынілі а. Фінкоўскаму перад самым носам дзьверы ў Канаду. Яны адначасна зьнішчылі яму й усякія магчымасьці выезду ў кажную іншую краіну сьвету, — бо-ж хто дазволіць на ўезд асобе «нездавальняючых маральных якасьцяў», з «маральнымі праступствамі» і г. д.? І больш гэтага. «Атэстат» гэты будзе вісець на шыі а. Фінкоўскага праз усё яго жыцьцё, аж да магілы, ды й па сьмерці няслаўны сьлед застанецца, бо-ж ведама, што «напісана пяром», ды яшчэ надрукавана, таго ўжо й сякерай ня высячэш.

Гэткія запраўднасьць і факты. Што пасьля гэтага сталася — гэта таксама наяўныя факты, але факты, што за межамі нармальнай людзкой лёгікі й падыходзяць больш да тэатру камэдыі, як да рэальнага жыцьця.

Найперш Хмара ўдаў моцна абуранага й закрычаў у сваім «Голасе» як на жывот. Ды, як выявілася, гэта ён робіць больш для апраўданьня самога сябе перад прыхаджанамі з закіду: чаму гэта ён надумаўся сьцягваць ім аж з Францыі «нездавальняючых маральных якасьцяў» рэлігійнага апякуна? Што «абурэньне» ягонае чыста дэмагагічнага характару, відаць ясна з таго, што на а. Лапіцкага, галоўнага выдаўцу кніжкі й спрычыніцеля ўсяго клопату, ён ані ня злуецца! Наперакор відавочным фактам і відаць разьлічаючы на нейкую асаблівую абмежанасьць сваіх «верных», ён намагаецца нахабна ім умовіць, што адказнасьць за няпрыезд а. Фінкоўскага ляжыць не на а. Лапіцкім і Касяку, ягонай кніжцы й БЦР, але ў зусім супроцьлежным боку — у БАПЦ! А каб яшчэ «лепш» і навочна пераканаць іх у гэтым, ён а. Лапіцкага, галоўнага вінавайцу, запрашае навет у пачатку верасьня ў госьці да сябе ў Торонто ды выдае яму шумны банкет! Характэрна для а. Лапіцкага ўжо, што ён да Хмаравай «маральнай роўні» падраўнаўся, запросіны з ахвотаю прыняў, і, відаць, кніжку пад сваю сьвятарскую расу схаваўшы, ў Торонто паехаў, каб там выліваць свае сьлёзы фарызейскае спагады на грудзёх «пакрыўджанага» Хмары. Ці таму, што Хмара дзеля сьпешкі нейк «забыўся» выслаць другія запросіны, ці мо' толькі дзеля «дыпляматычнай» скромнасьці, але другі сувыдавец і аўтар кніжкі — Іван Іванавіч Касяк — з а. Лапіцкім на банкет не зьявіўся...

Ды нязвычайнасьць усёй крывадушнай афэры банкетам а. Лапіцкага не канчаецца. Гэта толькі адзін акт фарызейскага публічнага ігрышча. Для Хмаравага палітычнага карыстаньня палымяны пратэст «ін блянко» напісаў і другі стоўб зарубежжа — др. Мікола Шчорс. З войстрага тону пратэсту можна-б было падумаць, што й запраўды ад гэтага выпадку Шчорсавае сумленьне здрыганулася ў самых сваіх зарубежных падвалінах. Аднак-жа зь ліста ня відаць, супроць каго гэта ён канкрэтна гэтак абураецца: ці супроць запраўдных відавочных вінавайцаў, ці супроць падсоўваных яму Хмараю ўяўных. І наагул няясна, дзеля чаго ён акурат хапіўся за пратэсты. Калі а. Фінкоўскі запраўды «праступнік маральнага й матар'яльнага характару», як гэта цьвердзяць на ўвесь сьвет сяньня Шчорсавыя самыя блізкія палітычныя «саратнікі», а. Лапіцкі ды І. Касяк, дык незразумела, чаго тут др. Шчорс лямантуе? Ці ён і дагэтуль яшчэ ня знае, што ня толькі Канада, але й ніхто на сьвеце з прынцыпу ня ўпускае ніякіх праступных асобаў? Сваімі пратэстамі ён у такім выпадку паніжае й дыскрэдытуе нікога іншага, а толькі самога сябе й свой «Кангрэсавы Камітэт», у якім ён старшынюе. Калі др. Шчорс, як старшыня гэтага Камітэту, патрапіць сяньня падымаць гвалт у вабароне праступнай асобы, дык хто заўтра паважна будзе лічыцца зь ягоным голасам і апініяй, калі ён захоча прыпадкам абараніць і запраўды чэснага чалавека?

Калі-ж др. Шчорс шчыра перакананы, што а. Фінкоўскі запраўды нявіннае ягнятка й нешчасьлівая ахвяра Касякоў ды Лапіцкіх, дык пратэставаць яму таксама няма чаго: абодвы-ж нягоднікі-вінавайцы ў ягоным-жа Камітэце, яны яму арганізацыйна падпарадкаваныя й ён можа, і навет маральна абавязаны, прыняць супроць іх тыя ці іншыя дысцыплінарныя меры — хоць-бы выкінуць з Камітэту, як яўных «мярзаўцаў» (слоўца зь ягонага-ж пратэсту). Заместа гэтага др. Шчорс аблыжным крыкам «лаві вінаватага» намагаецца прыхаваць сваіх камітэцкіх паплечнікаў. Пратэставаць трэба яму толькі супроць БЦР, якой ён і ягоны Камітэт палітычна падпарадкаваны, якая стаіць над ім, а якой фірма, і гэтым самым маральная апрабата, на менаванай кніжцы пакладзеныя.

Аднак-жа, судзячы з таго, што супроць публікатараў публічнага «воўчага атэстату» др. Шчорс аніякіх мераў ня прыймае, а таксама з таго, што свой ліст даў ён Хмары для выкарыстоўваньня яго акурат для адводу грамадзкай увагі ад кніжкі, ейных выдаўцоў і БЦР, у бок зусім супроцьлежны — БАПЦ, даводзіцца зрабіць вывад, што на баку сваіх груповых прыяцеляў др. Шчорс і зусім ніякой віны не дабачвае. І гэта зь ім ня пяршыня. Прыпомнім сабе хоць-бы тое, як адно пару гадоў таму Шчорсавае БЦР на сваім паседжаньні ў Нямеччыне ў прысутнасьці самога Астроўскага пастанавіла высылаць амэрыканскім палітычным дзейнікам масавыя хвальшывыя даносы на «бальшыню актыву» БНР аб іхнай быццам «дзейнасьці» на карысьць агентурных органаў СССР і ягоных сатэлітаў» (глядзі фотадакумэнт у № 33—34 «Бацькаўшчыны» з 1953 г.).

Чамусьці тады Шчорсавае зарубежнае сумленьне ані не здрыганулася, гэтага «сланя» ён не дабачыў, ніякога публічнага пратэсту аб «мярзаўцах» тады не паявілася. Пэўна-ж — лепш позна, чым ніколі, — можна было-б цешыцца й з таго, што ў канцы хоць цяпер др. Шчорс «маральна празрэў». Ды, нажаль, і з гэтага пацеха невялікая, бо, як з вышэйшага бачым, «празрэў» ён толькі на адно вока: бачыць ліха толькі на адным баку, і, што вельмі асабліва, бачыць яго ня там, дзе запраўды яно й сьляпому зырка ў вочы б'е, а толькі там, дзе яго няма, а куды яму сваім фюрэрскім пальцам Хмара тыркае! Дык пад Хмаравым «маральным» павадырствам разам з а. Лапіцкім фарызейскую Хмаравую кадрыль танцуе, аж люба, і шаноўны зарубежны доктар. Пацеха з гэтага для Хмары хіба-ж не малая: на паслугі сабе й сваім дэмагагічным інтрыгам адным махам удалося яму ў прыпражку заляйцаць аж двух зарубежных лідэраў: і фармальнага галаву амэрыканскага зарубежжа др. Шчорса, і фактычнага гаспадара гэтага зарубежжа — а. Лапіцкага.

**р.**

**ДА ЧЫТАЧОЎ ПАДПІШЧЫКАЎ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» Ў КАНАДЗЕ**

У мясцовым прадстаўніцтве «Бацькаўшчыны» ёсьць на прадаж калядныя паштоўкі зь беларускімі краявідамі. Цана аднае паштоўкі — 10 цэнтаў. Усіх зацікаўленых просім загадзя замаўляць.

Адначасна просім усіх чытачоў, залеглых з падпіскай, неадкладна яе ўрэгуляваць або аднавіць.

Грошы паштовымі чэкамі просім перасылаць на наступны адрас:

Mr. K. AKULA, 57 Riverdale Ave,
Toronto, Ont., CANADA

**ПРЫЕЗД СП. П. КОНЮХА Ў ЗША**

5-га кастрычніка сёлета прыбыў з Рыму ў ЗША ведамы беларускі сьпявак сп. Пётра Конюх.

З нагоды прыезду сп. П. Конюха, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва наладзіў 11 кастрычніка прыняцьце, дзе сп. Конюх меў нагоду пазнаёміцца з прадстаўнікамі беларускага грамадзтва, беларускае навукі й мастацтва ў Нью Ёрку.

На чарговай зборцы Інстытуту, у сыботу 13 кастрычніка, сп. П. Конюх даў маленькі канцэрт, на якім прысутныя мелі нагоду пачуць прыгожы голас сьпевака й артыстычнае выкананьне песьняў. На гэтай зборцы быў дадзены праф. А. Адамовічам рэфэрат, прысьвечаны 50-м угодкам выхаду «Нашае Долі».

Сп. П. Конюх пляную застацца ў ЗША на даўжэйшы час, даць канцэрты ў большых беларускіх асяродках ды найграць пліткі із свайго рэпэртуару.

**К. Мельнік**

# БССР хоча супрацоўнічаць з ЮНЭСКО

13 кастрычніка менскае радыё паведаміла аб утварэньні ў БССР «Камісіі па справах ЮНЭСКО». Для СССР такая Камісія была створана у лютым гэтага году, а для УССР — у жнівені.

Арганізацыя ЮНЭСКО была заснаваная ўжо ў 1946 годзе. Як паказвае ейны назоў, Юнэско зьяўляецца адной з сэкцыяў Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. Таму паказваецца дзіўным, што БССР, УССР і СССР, якія фігуруюць у ліку дзяржаў-закладчыкаў Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, толькі ў гэтым годзе далі сваю згоду прыступіць да супрацоўніцтва з ЮНЭСКО. Ведама, што прадстаўнікі Савецкай Беларусі, Савецкай Украіны і Савецкага Саюзу ўжо ад некалькі год былі сябрамі шматлікіх іншых арганізацыяў А.А.Н. Таму трэба думаць, што асьцярожнасьць, зь якой савецкія кіраўнікі ставяцца да ЮНЭСКО, мае свае прычыны. Гэтыя прычыны стануць зусім яснымі, калі супаставім мэты ЮНЭСКО і спосаб іх рэалізацыі з палітыкай, якую ў гэтай галіне праводзіць Савецкі Саюз.

ЮНЭСКО ў сваім статуце вызначае наступныя мэты:

«Спрычыніцца да міру і бясьпечнасьці паміж народамі шляхам падтрымоўваньня міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне адукацыі, навукі і культуры з мэтай разьвіцьця агульнай пашаны да справядлівасьці і законнасьці, да правоў чалавека і асноўных свабодаў».

Для асягненьня гэтых мэтаў ЮНЭСКО імкнецца да супрацоўніцтва у справе пашырэньня ўзаемнага пазнаньня й паразуменьня народаў усімі сяродкамі масавых кантактаў.

Азнаямленьне людзей з культурай іншых народаў, пашырэньне паміж усімі народамі навуковых досьледаў паасобных людзей і краінаў ды ўзаемная дапамога ў галіне адукацыі — тое, да чаго імкнецца ЮНЭСКО — вымагае ад дзяржаў зьнясеньня ўсіх гранічных перашкодаў, якія утрудняюць свабодны рух людзей, навуковай і мастацкай літаратуры і іншых сродкаў навуковай і культурнай вымены. А на гэта Савецкі Саюз ніяк ня хоча згадзіцца. Савецкая палітыка «зялезнай заслоны» як была, так і надалей застаецца ў сіле. Бальшавікі баяліся і баяцца дазволіць свабодны рух цераз граніцы сваёй імпэрыі, бо ня маюць чым пахваліцца перад чужынцамі і яны добра ведаюць, што вялікі працэнт савецкіх грамадзян, выехаўшы за граніцу, напэўна не захацеў-бы вяртацца назад ў савецкі «рай».

Каб даказаць, што і савецкія грамадзяне могуць падарожнічаць за граніцу савецкая прэса і радыё апошнім часам многа шуміць аб савецкім турызьме. Але ці паездкі за межы некалькіх груп спэцыяльна падабраных людзей можна назваць турызмам? ЮНЭСКО мае на ўвазе і ншы турызм. Як выглядае запраўдны турызм у вольным сьвеце пакажам на адным прыкладзе Нямеччыны. Паводле афіцыйных падлічэньняў больш чатырох мільёнаў жыхароў Заходняй Нямеччыны, гэта значыць амаль 10 працэнтаў ўсяго насельніцтва, выязджала за граніцу. А які-ж працэнт насельніцтва СССР наведаў замежныя краіны? Працэнт гэты сьмеху варты.

У галіне культурнай і навуковай вымены ды супрацоўніцтва іншымі шляхамі савецкія рэспублікі ня могуць таксама пахваліцца. Кніжкі замежных аўтараў у СССР і надалей падлягаюць строгай партыйнай цэнзуры. Распаўсюджваньне заходняй пэрыядычнай прэсы у СССР забаронена. Замежныя фільмы паказваюцца вельмі рэдка. Ніводзін студэнт зь Беларусі ня мае права выехаць на студыі ў некамуністычную краіну. Перадачы заходніх радыёстанцыяў у мовах падсавецкіх народаў надалей заглушваюцца.

У такіх умовах, бязумоўна, цяжка ўявіць нейкае нармальнае супрацоўніцтва паміж Савецкім Саюзам і вольнымі народамі на адрэзку дзейнасьці ЮНЭСКО. А бальшавіцкія ўлады і ня думаюць прадпрымаць якія-небудзь меры для палягчэньня гэтага супрацоўніцтва. Таму сёлетняе прыступленьне БССР, УССР і СССР да супрацоўніцтва з ЮНЭСКО зьяўляецца толькі фармальным жэстам, разьлічаным на прапаганду гэтак званай «дэмакратызацыі» савецкага рэжыму. Аднак гэты новы «доказ» «дэмакратызацыі» застанецца толькі прапагаднай, пакуль ён ня будзе падцьверджаны чынамі.

**А. Залескі**

**КАРТКІ**

ЗБМ у Кліўлэндзе і ў гэтым годзе выдае павіншавальныя карткі, якія каштуюць не даражэй за амэрыканскія. Іх будзе 15 розных і ўсе каляровыя з прыгожымі беларускімі тэкстамі. Заказы просім слаць на адрыс:

Mr. Ul. Duniec, 814 Brayton Ave,
Cleveland 13, Ohio, USA




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**